**№№157–158 (3696–3697)**

9 кастрычніка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

САЛІДАРНАСЦЬ

# Былыя палітвязні патрабуюць вызвалення цяперашніх

*Беларускія палітвязні канца 1990-х і 2000-х гадоў выступілі з сумеснай заявай, у якой запатрабавалі ад улад шэрагу палітычных крокаў і вызвалення цяперашніх палітвязняў.*

*"Зараз мы з болем назіраем, што турмы ў краіне не пусцеюць, а нашы паплечнікі адбываюць тэрміны па чарговых надуманых артыкулах за свае палітычныя перакананні. Некаторыя з нас у свой час былі вызвалены датэрмінова, дзякуючы палітыцы санкцый альбо дыялогу. Вызваленне палітвязняў як раней, так і зараз дае шанец палепшыць міжнародныя адносіны, вывесці краіну з ізаляцыі, што з'яўляецца неабходнай умовай для недапушчэння чарговай хвалі эканамічнага ды сацыяльнага крызісу, адказнасць за які немінуча ляжа на плечы кіраўніка дзяржавы",* — сказана ў звароце.

Былыя палітвязні патрабуюць вызвалення тых, хто зараз сядзіць у беларускіх турмах за палітычныя перакананні незалежна ад таго, напісаў чалавек прашэнне аб памілаванні ці не напісаў. Таксама яны патрабуюць аднавіць дыялог і паўнавартасныя дыпламатычныя адносіны з Еўрасаюза і ЗША і пачаць сапраўдную лібералізацыю ў краіне.

Зварот падпісалі:



**Славамір Адамовіч
Аляксандр Казулін
Мікіта Ліхавід
Наста Палажанка
Вячаслаў Сіўчык
Андрэй Пачобут
Юрый Хадыка
Віктар Івашкевіч
Аляксей Шыдлоўскі
Арцём Дубскі
Артур Фінькевіч
Андрэй Клімаў
Уладзімір Яроменак
Андрэй Кім
Зміцер Каспяровіч
Сяргей Каваленка
Алесь Кіркевіч
Андрэй Бандарэнка
Сяргей Казакоў
Зміцер Дрозд
Павал Мажэйка
Павал Вінаградаў
Аляксандр Баразенка
Вадзім Кабанчук
Эніра Браніцкая.**

З-ЗА КРАТАЎ

## Дашкевіч спыніў галадоўку

*У мінулую пятніцу, 5 кастрычніка, Дзмітрый Дашкевіч спыніў галадоўку, якая цягнулася 15 дзён. Гэта стала вядома пасля таго, як з Дашкевічам у Мазырскай калоніі сустрэлася адвакат.*

Як паведаміла нявеста вязня Наста Палажанка, стаўленне да Дзмітрыя змянілася, сваёй мэты ён дабіўся. *"Размаўляюць з ім паважліва і вядуць сябе прыстойна. Дашкевіч пераведзены з карцара ў памяшканне камернага тыпу на месяц. Ён лічыць гэта безумоўнай перамогай і перадае падзяку асабліва журналістам і праваабаронцам, а таксама ўсім неабыякавым людзям, сваім паплечнікам",* — сказала Наста.

Па яе словах, Дзмітрый выглядае вельмі схуднелым, але настрой у яго бадзёры.

## Турма ў турме

*Палітвязень Мікалай Дзядок да 6 снежня будзе знаходзіцца ў памяшканні камернага тыпу — адзіночнай камеры. Ён пазбаўлены перадач, спатканняў, тэлефанаванняў дахаты. Пра гэта даведаўся адвакат вязня, які сустрэўся з ім у калоніі.*

Бацька палітвязня Аляксандр Дзядок гаворыць, што сітуацыя ў калоніі яўна памянялася — узнікла напружанасць. *"Адвакат амаль чатыры гадзіны чакаў на прахадной, і па розных прычынах Мікалая не прыводзілі. Гэта можна патлумачыць тым, што павялічаны ціск на ўсіх палітвязняў, у тым ліку і на Мікалая",* — расказаў Аляксандр Дзядок.

Студэнт Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта Мікалай Дзядок адбывае 4,5 года зняволення за ўдзел у акцыях анархістаў у Мінску ў 2010 годзе. Трымаюць Мікалая Дзядка ў Шклоўскай калоніі. Ягоны бацька Аляксандр Дзядок — сам быў суддзя.

РАЗДРАЙ

# Тупик?

Внешне кажется, что в политической тусовке апатия и растерянность. На самом деле страсти кипят, так как уже началось обсуждение стратегии на 2015 год — год следующих президентских выборов.

Пока обсуждения проходят на уровне конфиденциальных встреч, однако кое-что скрыть уже не удается.

*"На недавней конфиденциальной встрече с лидерами оппозиции я сказал все, что счел необходимым сказать. Казалось, все всё поняли. Но, оказалось, только во время встречи.*

*Почему-то все в оппозиции уверены, что, предлагая единую стратегию и единого кандидата, я предлагаю себя. Да, на минувших выборах я это делал. Да, для этого и создавалась кампания "Говори правду!". В чем был замысел? Если оппозиция не желает выходить замуж за единого кандидата по любви — заставить ее сделать это по интересу. Ну, чтобы старой, да еще и необеспеченной девой не остаться. Но на предстоящих выборах, уверяю, таких намерений не имею. И не только потому, что счастливо женат, но и потому, что трезво оцениваю ситуацию. И предлагаю трезво оценить ее каждому. Обман в политике — дело плохое, а самообман — просто гибельное".*

**Это признания лидера кампании "Говори правду!"** Владимира **НЕКЛЯЕВА.** Поначалу многим показалось, что вышесказанное означает отказ Некляева от президентских амбиций. Однако оказалось, что это не так.

Лидер Объединенной гражданской партии считает, что для стратегии объединения ничего придумывать не надо — все уже давно придумано.

*"В 2009 году по инициативе ОГП был выработан план выхода на единого кандидата, — говорит* ***Анатолий ЛЕБЕДЬКО.*** *— Есть документ, под которым, правда, тогда не поставил подпись Александр Милинкевич. Это завело ситуацию в тупиковое состояние, хотя наработки уже есть. Даже ничего придумывать не надо. Так что мы не будем ориентироваться на разговоры. Если кто-то хочет серьезно разговаривать — есть план. Вот это мы готовы обсуждать. На сегодняшний день одно из главных направлений (если не главное) — это честные выборы без Системы. Если бы мы реализовали эту кампанию (ее цели и задачи) хотя бы на уровне 1990 года, когда были выборы при коммунистах, тогда вопрос единого кандидата уже отходил бы на второй план. Потому что проблема "единого" — не самая большая проблема. Даже если он будет, но есть правила, которые были во время этой избирательной кампании, то итог можно спрогнозировать заранее. Вряд ли это приведет к изменениям в стране. Главное на сегодня — дадут ли нам считать голоса на выборах. Все остальное — вторично".*

И третья позиция — радикальная. Ее озвучил **Владимир МАЦКЕВИЧ**, который возглавляет Национальную платформу Форума гражданского общества. Похоже, НГО решили позиционировать себя как третья сила, альтернативная оппозиции.

**"Вы поймите, что люди вроде Рымашевского, в отсутствие Северинца захватившего власть у христианских демократов, ничего, кроме собственных корыстных эгоистических интересов, не преследуют. Поэтому они будут идти против любых разумных предложений, если эти разумные предложения исходят не от них. И гробить их.**

**Вы поймите, хороший человек Калякин. Но на протяжении двадцати с лишним лет существования его партии, которая не подвергалась репрессиям (это не радикальный БНФ), не развивается. Более того, она отказывается от методологии марксизма и идет на поводу у популистских лозунгов — борются уже не за построение плановой социалистической экономики, а за некий абстрактный "Справедливый мир".**

**Эти люди не могут возглавлять оппозицию в силу утраты теоретической концептуальной стратегической определенности...**

**Новые инициативы рождаются на базе консолидации общественного недовольства. Когда партии дискредитировали себя в середине 1990-х годов, особенно после переворота 1996 года, общественная инициатива "Хартия" моментально, в течение нескольких месяцев, стала популярной. Это была общественная инициатива. И только потом, когда лидеры "Хартии", отгородившись от всех общественных деятелей, решили, что теперь они будут главными политиками, она скатилась на уровень всех тех политических партий, в качестве альтернативы которым она создавалась. Это была грубейшая ошибка "Хартии", которую повторяли потом другие.**

**Движение "За свободу" точно так же создавалось на базе организаций третьего сектора как общественное движение. Но после первых же небольших успехов возомнили себя квазипартией и скатились к тому же состоянию, в котором пребывают и карликовые, никому не нужные партии. Движение, которое вывел Милинкевича на первые позиции в 2005—2006 годах, в конце 2006 года сел за один стол со всеми теми, альтернативой которым он выдвигался.**

**В 2010 году та же самая ситуация повторилась с кампанией "Говори правду!". Это было общественное движение, возникшее на волне недовольства политическими структурами и партиями, получившее наибольшую популярность, буквально в течение года раскрутившее Некляева из поэта в политика (и он был главным политиком к декабрю 2010 года, именно его — единственного из всех кандидатов — изолировали от Площади, проломив голову). И что потом? Потом "Говори правду!" вместо того, чтобы обращаться к общественности, действовать как общественная структура, объявила себя одним из маленьких политических субъектов, сели за стол рядом с другими и превратились в элемент "шестерки".**

**Теперь мы создаем Национальную платформу гражданского общества. Перед Национальной платформой мы ставим цели: изменение общественно-политического режима в стране, возвращение страны к нормальному цивилизованному развитию как в экономике, как в политике, так и в общественной жизни. Это политические цели, это гражданско-политические цели. Это движение неравнодушных граждан".**

***

*Что ж получается? Вместо консолидации — полный раздрай? А может, так и нужно?! Чтобы объединиться, нужно вначале основательно разойтись...*

**Игорь МОРОЗОВ.**

ПАЛІТКУХНЯ

# «Праўладныя» заварушыліся

Па звестках "Народнай Волі", у Палату прадстаўнікоў ужо паступілі папраўкі ў закон аб грамадскіх арганізацыях, якія прадугледжваюць пераўтварэнне любой грамадскай арганізацыі ў палітычную партыю. Згодна з папраўкамі, для гэтага трэба будзе ўсяго толькі правесці з'езд і прыняць адпаведнае рашэнне.

Няма вялікага сакрэту ў тым, што даўно з'явілася ідэя стварыць праўладную партыю на базе "правільнага" грамадскага аб'яднання "Белая Русь", якое пераважна чыноўнікаў у сваіх шэрагах і аб'ядноўвае. Папярэдне планавалася, што адпаведны з'езд "Белая Русь" правядзе ўжо ў лістападзе. Але цяпер лёгка здагадацца, што дата з'езда будзе прызначана толькі пасля таго, як дэпутаты прымуць вышэйзгаданы закон.

Нагадаем, што "Белую Русь" узначальвае намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта па ідэалагічных пытаннях Аляксандр Радзькоў. Не выключана, што ён і ўзначаліць новую партыю.

У панядзелак Аляксандр Лукашэнка прымаў і прадстаўніка яшчэ адных прэтэндэнтаў на "праўладныя" — намесніка старшыні Мінгарвыканкама Ігара Карпенку, які адначасова з'яўляецца другім сакратаром ЦК Камуністычнай партыі Беларусі.

"Давайце шчыра гаварыць: трэба іх падтрымаць. Мы не будзем гэта рабіць, напрыклад, за кошт бюджэту, але падтрымку трэба аказаць... Гэта не чужыя нашаму народу партыі, таму я публічна гавару пра тое, што партыі патрыятычнага накірунку не павінны весці жабрацкае існаванне. Там, дзе яны патрэбны народу, па тых напрамках мы павінны ім дапамагаць".

Звяртае на сябе ўвагу тое, што за дапамогай да Аляксандра Лукашэнкі пайшла не кіраўнік камуністаў Таццяна Голубева, а яе намеснік і адначасова высокі чыноўнік Ігар Карпенка. Што ж тычыцца спадарыні Голубевай, то яе кар'ера, напэўна, набліжаецца да канца. Па крайняй меры, гэтым разам яна нават не балатавалася ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, хаця на працягу трох скліканняў нікому сваё месца сярод дэпутатаў не саступала. А ўжо што дзеючыя ў краіне парадкі хваліла — дык і ў самыя застойныя савецкія часы такой лісліваспі мы не чулі.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ПРАТЭСТ

# У найгоршых традыцыях камуністычнага таталітарызму...

Вялікая група гісторыкаў і інтэлектуалаў выступіла з адкрытым лістом да міністра адукацыі Сяргея Маскевіча і кіраўніцтва Гродзенскага ўніверсітэта, у якім патрабуюць аднаўлення на працы дацэнта, кандыдата гістарычных навук **Андрэя Чарнякевіча,** звольненага пасля выхаду кнігі "Гродназнаўства", напісанай з ягоным удзелам. Дарэчы, міністр Маскевіч у свой час быў рэктарам Гродзенскага ўніверсітэта.

"Навуковая супольнасць гісторыкаў як у Беларусі, так і за межамі краіны з непакоем успрыняла звальненне з працы па надуманых прычынах дацэнта ГрДУ вядомага гісторыка Андрэя Чарнякевіча, — гаворыцца ў лісце. — Абставіны звальнення сведчаць, што сапраўднай яго прычынай стала не парушэнне працоўнай дысцыпліны (два спазненні на лекцыю і замена з калегай па дазволе кіраўніка), а ўдзел А.Чарнякевіча ў напісанні кнігі "Гродназнаўства".

У найгоршых традыцыях камуністычнага таталітарызму некаторыя службовыя асобы праявілі недарэчную "ідэалагічную пільнасць" адносна працы, якая прайшла прафесійнае рэцэнзаванне, двойчы друкавалася ўніверсітэцкім выдавецтвам і рэкамендавана да ўжывання ў гродзенскіх школах на факультатыўнай аснове.

У прыватнасці, раздражненне чыноўнікаў выклікала змяшчэнне ў кнізе гістарычных і дзяржаўных сімвалаў Беларусі — герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга.

Спадар Андрэй Чарнякевіч — прафесійны гісторык, які стварае свае працы, кіруючыся навуковым сумленнем, а не ідэалагічнымі інструкцыямі чарговай улады.

Ягонае звальненне мы ўспрымаем як пераслед за навуковую добрасумленнасць, як забарону на прафесію. Трэба адзначыць, што гэта далёка не першы падобны выпадак у найноўшай гісторыі Беларусі. Для некаторых чыноўнікаў робіцца нормай практыка выгнання з працы прадстаўнікоў гуманітарных навук, якія імкнуцца прафесійна выконваць свае абавязкі.

Чакаем ад кіраўніцтва ўніверсітэта і Міністэрства адукацыі аднаўлення на пасадзе кваліфікаванага спецыяліста-выкладчыка, які за 11 гадоў працы не меў ніводнага спагнання. Нагадваем, што апошнюю ацэнку як прарэктару С.У.Агіявец, так і рэктару Я.А.Роўбу, міністру С.А.Маскевічу ды іншым датычным да справы асобам будзем ставіць мы, гісторыкі".

Пад лістом падпісаліся:

**Аляксандр КРАЎЦЭВІЧ** (Гродна), доктар гістарычных навук.

**Алесь СМАЛЯНЧУК** (Гродна), доктар гістарычных навук.

**Захар ШЫБЕКА** (Хайфа), доктар гістарычных навук.

**Генадзь САГАНОВІЧ** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.

**Аляксандр РАДЗЮК** (Гродна), кандыдат гістарычных навук.

**Уладзімір ЛЯХОЎСКІ** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.

**Анатоль ВЯЛІКІ** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.

**Аляксандр ФЯДУТА** (Мінск), кандыдат філалагічных навук.

**Алесь ПАШКЕВІЧ** (Мінск), кандыдат гістарычных навук і іншыя.

На момант здачы гэтага нумара ў друк пад лістом ужо было сабрана больш за 300 подпісаў.

**Іван КАЛЮТА.**

АКЦЫЯ

## Шэсце ў Курапаты запланавалі на 28 кастрычніка

**Заяўкі на правядзенне традыцыйнай акцыі на Дзяды падалі ў Мінгарвыканкам і ў Мінаблвыканкам.**

**Пра гэта паведаміў намеснік старшыні партыі КХП—БНФ Юрась Беленькі. Ён сказаў, што фармат адзначэння будзе такім, як і летась. У мінулыя выхадныя сябры КХП—БНФ правялі ў Курапатах талаку, прыбралі мемарыял перад Дзядамі. Яшчэ адну талаку зладзяць напярэдадні дня памінання продкаў.**

ПА-СУСЕДСКУ

## Смаргонскія памежнікі прынялі ад літоўскіх калег землякоў-нелегалаў

*У панядзелак, 8 кастрычніка, у пункт пропуску "Каменны Лог" з Літвы даставілі трох грамадзян Беларусі, затрыманых у свой час на літоўскай памежнай тэрыторыі. Усе яны паспелі адбыць пакаранне ў суседняй краіне.*

Двое з іх, затрыманыя за кантрабанду цыгарэт, паводле літоўскага памежнага заканадаўства, адбылі 2 месяцы зняволення ў цэнтры рэгістрацыі замежных грамадзян у Пабрадзе.

Яшчэ адзін, які парушыў мяжу, каб наведаць сваякоў, адсядзеў 25 сутак у турме.

Як паведамляе прэс-служба Дзяржаўнага пагранічнага камітэта, цяпер парушальнікі атрымаюць пакаранне і паводле беларускіх законаў. За парушэнне мяжы кантрабандысты заплацяць па 1,5 мільёна рублёў, а нелегальны госць — 500 тысяч.



*Гарадаское грамадскае аб'яднанне "Цэнтр супольнасць" УНП 101119264*

НАДВОР'Е

## Адчувальна халадае

*Скандынаўскі цыклон прынясе ў Беларусь пахаладанне і дажджы. Пра гэта ў панядзелак паведаміў начальнік службы гідраметэапрагнозаў Белгідрамета* ***Дзмітрый Рабаў.***

Метэаролагі папярэджваюць, што на гэтым тыдні нас чакае першае істотнае восеньскае пахаладанне.

У аўторак надвор'е будзе вызначацца ўплывам халоднага фронту, які змяшчаецца з Заходняй Еўропы.

Пачынаючы з серады, вызначаць надвор'е будзе скандынаўскі цыклон, на нашу тэрыторыю пачне паступаць паветра паўночных шырот. У сераду-чацвер на большай частцы тэрыторыі краіны чакаюцца кароткачасовыя дажджы.

*"У сераду ў асобных раёнах прагназуецца ўзмацненне ветру, парывы да 15—18 метраў у секунду. Мінімальная тэмпература паветра ўначы складзе 1—7 градусаў цяпла. 11 кастрычніка на тарфяніках Брэсцкай вобласці месцамі чакаюцца замаразкі ад нуля да мінус 3 градусаў, максімальная тэмпература днём — ад плюс 5 па поўначы да плюс 11 па поўдні краіны",* — паведаміў Дзмітрый Рабаў.

*"У далейшым з ростам атмасфернага ціску дажджоў стане менш, але па-ранейшаму захаваецца халоднае надвор'е. Сярэднясутачная тэмпература чакаецца на 2—4 градусы ніжэй за норму",* — удакладніў спецыяліст.

Пераважная тэмпература паветра ўначы будзе 1—6 цяпла (але месцамі замаразкі), а максімальная тэмпература днём — 4—11 градусаў цяпла. І толькі ў нядзелю будзе на 2—3 градусы цяплей.

РАЗБОР ПАЛЁТАЎ

*Анатоль ЛЯЎКОВІЧ:*

# «Правільна, пакуль што ўсё так: вынік — дуля...»



*За апошнія гады сацыял-дэмакрат Анатоль Ляўковіч і філосаф Вячаслаў Оргіш надрукавалі ў дзяржаўнай газеце "Советская Белоруссия" не адзін артыкул пра тое, што апазіцыя павінна знаходзіць паразуменне з уладай, што трэба, каб хаця б частка апазіцыі трапіла ў парламент ці ў органы ўлады.*

*Але ў выніку — дуля. У парламент ніхто з прадстаўнікоў апазіцыі не трапіў, на працу ў дзяржаўныя органы улады таксама запрашэнняў нікому не даслалі.*

*"Народная Воля" пацікавілася, як бачыць сваю далейшую палітычную будучыню Анатоль Ляўковіч? Можа, пасля таго, як яго не прапусцілі ў парламент, ён кардынальна змяніў свае погляды? І ці будзе ў сааўтарстве з філосафам Оргішам па выніках парламенцкай кампаніі прапаноўваць новыя артыкулы дзяржаўнай прэсе?*

— Правільна, пакуль што ўсё так, — *адказаў Анатоль Іосіфавіч.* — Вынік — дуля... Рэзюміруя ўсё гэта, можна сказаць, што ў сістэмны палітычны працэс трапяць толькі самыя моцныя, настырныя і настойлівыя палітыкі.

**— Дык ніхто ж нікуды не трапіў...**

— Чакайце, я развіваю думку... Патрапіць у сістэмны палітычны працэс пры цяперашняй уладзе вельмі цяжка і складана. І трапяць туды толькі самыя мэтанакіраваныя. Мой вопыт пра гэта сведчыць — я ж шмат гадоў займаюся палітыкай, сустракаўся з шэрагам кіраўнікоў палітычнага кіраўніцтва краіны, але ніхто маім вопытам нават не пацікавіўся. Ні ва ўладзе, ні ў апазіцыі. Апазіцыя — гэта ўвогуле Анатоль Лябедзька, чалавек, які, па сутнасці, прывёў Аляксандра Рыгоравіча ва ўладу....

**— У Лябедзькі мы таксама запытаемся, якой ён бачыць сваю палітычную будучыню. Вы пра сябе лепш распавядзіце...**

— Я ведаю, што многія апазіцыянеры проста зарабляюць грошы на палітычным працэсе. А калі сітуацыя заўтра зменіцца, чым той жа Лябедзька будзе зарабляць грошы?

**— А чым вы будзеце зарабляць? Дарэчы, вы напярэдадні выбараў скардзіліся, што вам на хлеб яшчэ хапае, а вось на сала — не заўсёды...**

— Дык я кажу, што сяджу без працы, хаця дацэнт, 25 гадоў выкладаў ва ўніверсітэце і сёння магу гэта паспяхова рабіць, але мяне ў вышэйшыя навучальныя ўстановы не пускаюць. Таму я дакладна ведаю, што пры дэмакратычнай сістэме буду зарабляць свае грошы як прафесіянал, а вось што Лябедзька рабіць будзе — ён што, працаваў недзе, мае навуковую ступень?

**— Пакуль ён мае легальную партыю і, наколькі я разумею, атрымлівае хоць невялікі, але заробак.**

— Паслухайце, якая там партыя! Гэтую партыю я некалі дапамагаў ствараць! І ўвогуле, якія партыі могуць быць у межах гэтай сістэмы? Па дзесяць чалавек тусоўкі?..

Я адстойваю сваю пазіцыю: мой вопыт сведчыць, што прарвацца ў сістэмны палітычны працэс вельмі цяжка. Сёння ўладзе патрэбна не канструктыўная, не мэтанакіраваная апазіцыя, якая б патрапіла ва ўладу, а прадажная. І ў нас такая апазіцыя ёсць. Вы ж бачыце, што 18 гадоў у нас апазіцыя адна і тая ж. І чым яна займаецца? Ля-ля-тапаля і больш нічога!

**— Але ж вы — гэта таксама быццам бы апазіцыя...**

— Так, але я тая апазіцыя, якая не корміцца з палітычнага працэсу. Я толькі апошнія пяць гадоў не працаваў, а так ніколі не быў беспрацоўным. Свой хлеб самастойна зарабляў, і свае грошы яшчэ ў партыю ўкладваў. А нашы апазіцыянеры прызвычаіліся не працаваць. Вы паглядзіце, колькі сярод нашай апазіцыі беспрацоўных!

Таму выснова такая: каб патрапіць у палітычны працэс, трэба прапаноўваць нешта канкрэтнае, каб электарат убачыў сапраўды канструктыўную сілу, якая ўносіць прапановы па развіцці грамадства і краіны лепшыя, чым улада. Каб і ўлада да гэтых прапаноў прыслухалася! Ведаю, што розныя прапановы ад палітычных партый, у тым ліку і ад нас, па ЖХГ, па энергазберажэнні дасылаліся ва ўладныя структуры, але калі іх і выкарыстоўваць, то ні словам не намякнуўшы, што гэтыя прапановы ад апазіцыі. Але ўсё роўна добра тое, што хоць нейкія нашы ідэі рэалізоўваюцца.

**— А што маеце на ўвазе пад выразам "канструктыўная апазіцыя"?**

— Тая, якая прапаноўвае пазітыўныя ідэі для краіны і людзей. Якая нешта можа рабіць, а не толькі гаворыць.

**— Анатоль Іосіфавіч, а вы плануеце прапаноўваць свае новыя артыкулы дзяржаўным выданням?**

— Я пазіцыю не мяняю. І калі сфармуляваў мэту і паставіў задачу, то буду рабіць усё, каб яе дасягнуць. Другая справа, падтрымае мяне той жа Оргіш ці не: ён жа можа сказаць, што цяпер, Ляўковіч, ты ніхто, бо партыю ў цябе адабралі.

Але мая пазіцыя застаецца непахіснай — я па-ранейшаму за канструктыўныя змены і супраць рэвалюцый (лічу, што нашай краіне яны не патрэбны). Я прапанаваў апазіцыі змяніць стратэгію і тактыку. І я падумаю, што яшчэ трэба прапанаваць, каб апазіцыя стала мацнейшай.

**— Карацей, з палітыкі сыходзіць не збіраецеся?**

— Канешне, не! У нас зарэгістравана сем сацыял-дэмакратычных партый. Але хто пра іх ведае, хто можа пералічыць хаця б іх назвы і не заблытацца? На мой погляд, патрэбна адпаведная грамадская пляцоўка, дзе абмяркоўвалі б перспектывы, хай нават аддаленыя. І потым, на мой погляд, варта стварыць сапраўдную сацыял-дэмакратычную партыю. Адну, але вельмі моцную. І я вельмі не хацеў бы, каб да нараджэння гэтай партыі спрычынілася толькі наменклатура...

Зараз я стварыў аргкамітэт па фарміраванні Рэспубліканскага грамадска-асветніцкага аб'яднання "Сацыял-дэмакраты за дыялог і кансалідацыю". Некаторыя таварышы прапаноўваюць мне ўзначаліць Цэнтрысцкую партыю Беларусі — такая ідэя ўзнікла падчас парламенцкай кампаніі (праўда, як пісала "Народная Воля", мяне не зарэгістравалі). Я пакуль адказу не даў — думаю...

## У ТЭМУ

*Вячаслаў ОРГІШ:*

### *"Трэба думаць, што рабіць далей..."*



*Філосаф Вячаслаў Оргіш ад доўгіх каментарыяў устрымаўся, заўважыў толькі, што "разважаць трэба не над тым, што адбылося, а што рабіць далей".*

— Тэма гэта складаная і патрабуе сур'ёзнай прапрацоўкі, заслугоўвае далейшых разваг, — *гаворыць Вячаслаў Пятровіч.* — Я лічу, што няўдача — не повад, каб ставіць кропку, каб кідацца з адной крайнасці ў другую. Праблема, безумоўна, існуе. Але палітычны працэс усё роўна будзе працягвацца, да гэтага падахвочваюць акалічнасці.

У адрозненне ад Ляўковіча я палітычнай практыкай не займаюся. Мой інтарэс складаецца ў тым, каб тэарэтычна асэнсаваць палітычны працэс і прапанаваць сваё разуменне грамадскасці.

**Марына КОКТЫШ.**

НУ І НУ!

# Запрашэнне... з таго свету?

*Праваабаронца Алег Мацкевіч нарэшце атрымаў адказ на сваю скаргу на парушэнні пры галасаванні на даму на ўчастку №9 Барысаўскай гарадской выбарчай акругі №62, дзе ён быў акрэдытаваны назіральнікам.*

Адказ на скаргу падпісаў старшыня акруговай выбарчай камісіі Барысаўскай гарадской выбарчай акругі №62 Васіль Баранік.

**"Прачытаўшы тлумачальную старшыні ўчастковай выбарчай камісіі для галасавання №9 Андрэя Андрэевіча Завацкага, акруговая выбарчая камісія Барысаўскай гарадской выбарчай акругі №62 паведамляе, што ўчастковая камісія ўчастка для галасавання забяспечыла магчымасць, згодна з арт.52 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, удзельнічаць у галасаванні выбаршчыкаў, якія па стане здароўя або іншых уважлівых прычынах не змаглі прыйсці ў дзень выбараў на ўчастак для галасавання. Названыя вамі выпадкі парушэння арт.54 Выбарчага кодэкса РБ праверыць не ўяўляецца магчымым",** — напісана ў адказе.

На самай справе праверыць, хто выклікаў на дом членаў камісіі, а хто — не, было даволі проста. У сваёй скарзе Мацкевіч пазначыў, што ў дзень выбараў з 10 раніцы да 13.30 скрыню для галасавання прывозілі двум выбаршчыкам, якія не маглі выклікаць членаў камісіі на дом, таму што знаходзіліся ў непрытомным стане; трое аказаліся памерлымі; пяцёра адкрыта сказалі, што камісію на дом не выклікалі; адзінаццаці наогул не аказалася дома; трое выехалі з месца жыхарства; яшчэ 16 чалавек паведамілі, што на той момант ужо прагаласавалі ў памяшканні ўчастка.

Але выбары такія, што нават не палічылі патрэбным разбірацца, як атрымалася, што пра жаданне прагаласаваць каміссіі "паведамілі" памерлыя ды непрытомныя.

# *Не вер вачам сваім*

*У Гомелі назіральнікі на выбарах, якія напісалі ў акруговыя камісіі і ЦВК шэраг скаргаў, атрымліваюць абсалютна аднолькавыя адказы.*

У асноўным скаргі тычыліся фальсіфікацый лічбаў яўкі выбаршчыкаў, але на некаторых участках назіральнікі прасілі правесці паўторны падлік галасоў, паколькі на свае вочы бачылі, што галасы, адданыя за аднаго кандыдата, прыпісвалі іншаму.

Тым не менш спадарыню Ярмошыну і яе паплечнікаў па Цэнтральнай выбарчай камісіі такія сур'ёзныя сігналы не засмуцілі. Зараз назіральнікі атрымліваюць аднолькавыя адказы з ЦВК, дзе напісана, што візуальны падлік галасоў не мае прававога значэння, паколькі такая працэдура не прадугледжана выбарчым заканадаўствам. І таму, бачыце, ЦВК не знайшла падстаў *"для пастаноўкі пытання аб паўторным падліку галасоў".*

Акруговыя камісіі наогул адмовіліся разглядаць скаргі, матывуючы гэта тым, што *"ў паўнамоцтвы назіральніка не ўваходзіць функцыя паралельнага падліку галасоў".*

Не вер вачам сваім — вось і ўсё назіранне па-беларуску.

КАШАЛЁК

# Як мянялася цана долара

*7 гадоў долар у Беларусі каштаваў каля 2 тысяч рублёў. Яшчэ тры гады трымаўся на ўзроўні трох тысяч. А як доўга мы будзем жыць з курсам 8500?*




## ЗАМЕСТ КАМЕНТАРЫЯ

# *У новым годзе з новым курсам?*

*Бюджэт Беларусі на 2013 год сфарміраваны з разліку курса долара 8950 рублёў. Але ці ўдасца яго захаваць на такім узроўні?*

Незалежныя эканамісты сыходзяцца ў меркаванні, што ўжо да канца года валюта падаражэе на 5—10% і курс рубля будзе ў межах 8600—9000 рублёў за долар. А ў 2013 годзе, па разліках былога кіраўніка Нацбанка Станіслава Багданкевіча, цана долара ў абменніках дасягне 10 тысяч. Эканаміст Леанід Злотнікаў таксама мяркуе, што ў новым годзе курс валют будзе новым. Але які дакладна, прагназаваць не бярэцца.

— Што тычыцца наступнага года, то што-небудзь меркаваць складана, — кажа эксперт. — Дэфіцыт валюты будзе назірацца ўжо да канца гэтага года, а ў наступным ён будзе занадта вялікі для падтрымання курса рубля на ранейшым узроўні. Ужо да канца бягучага года Нацбанк для падтрымання курса рубля рызыкуе расходаваць месячны аб'ём золатавалютнага рэзерву. А калі рэзерваў застаецца на месяц, гэта наогул крытычная сітуацыя. Напрыклад, на пачатку 2011 года іх таксама заставалася на месяц, пасля чаго пачаліся абмежаванні па валюце, і ў выніку гэта выклікала абвал на валютным рынку.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## ДАРЭЧЫ

# *Запасы скарачаюцца*

Золатавалютныя рэзервы Беларусі ў вызначэнні МВФ на 1 кастрычніка 2012 года склалі 8 млрд 126 млн долараў ЗША, нязначна знізіўшыся за верасень — на 15,2 млн долараў.

Пра гэта сведчаць даныя Нацыянальнага банка.

Нагадаем, у жніўні аб'ём ЗВР знізіўся на 106,3 млн долараў, у ліпені — на 82 млн долараў. Апошнім месяцам, калі адзначаўся рост рэзерваў, быў чэрвень гэтага года, калі ЗВР выраслі на 291 млн долараў. У цэлым з пачатку 2012 года золатавалютныя рэзервы Беларусі выраслі на 210,1 млн долараў ЗША, або на 2,6%.

Трэба адзначыць, што па метадыцы МВФ пры падліку памеру золатавалютных рэзерваў улічваюцца толькі манетарнае золата і валютныя рэзервы ў свабодна канвертуемых валютах замежных дзяржаў.

ВЫБОРЫ-2012

# *Неверагоднае «прасвятленне»*

*Вынікі выбараў афіцыйна зацверджаны, Цэнтрвыбаркам сцвярджае, што ніякіх сур'ёзных парушэнняў не зафіксавана, а прыклады таго, як забяспечвалася перамога праўладных кандыдатаў, працягваюць здзіўляць.*

Так, на ўчастку №76 Салігорскай сельскай выбарчай акругі раптам зніклі 12% выбаршчыкаў.

Як вынікае з адказу старшыні акруговай камісіі Таццяны Ярота незалежнаму назіральніку Уладзіміру Шылу, першапачатковая колькасць выбаршчыкаў на ўчастку "насамрэч складала 3094 чалавекі". Але ў апошні дзень выбараў на камісію сышло нейкае прасвятленне, і спіс "удакладнілі", зменшыўшы яго ажно на 381 чалавека — да 2713 асоб. Паводле слоў спадарыні Ярота, са спісу былі выкраслены неграмадзяне Рэспублікі Беларусь, асобы, якія з'ехалі за межы краіны і часова змянілі месца рэгістрацыі, а таксама памерлыя.

— Да пачатку галасавання ўсе гэтыя спісы ўжо былі тройчы правераны. Камісія ж канчаткова іх "удакладніла" адразу на чатыры сотні чалавек у меншы бок чамусьці менавіта ў апошні дзень выбараў, калі стала абсалютна зразумела, што пры такой яўцы выбары не адбудуцца. Пасля гэткіх маніпуляцый Уладзімір Каштальян, сакратар камісіі і адначасова дырэктар школы ды настаўнік матэматыкі, вывеў афіцыйны ўзровень яўкі акурат у 50,3%, — кажа Уладзімір Шыла. — Ды і названыя прычыны змяншэння колькасці выбаршчыкаў не вытрымліваюць аніякай крытыкі. Калі ў самым багатым горадзе Беларусі 12 працэнтаў выбаршчыкаў за паўтара года з'ехалі за мяжу ці памерлі, дык страшна робіцца за астатнія рэгіёны.

А цяпер — пра галоўных герояў гэтай гісторыі. Старшыня акруговай камісіі Таццяна Ярота ў "мірным жыцці" працуе намеснікам дырэктара салігорскай швейнай фабрыкі "Калінка".

Дэпутатам Палаты прадстаўнікоў ад Салігорскай сельскай выбарчай акругі застаўся Яўген Абаленскі.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор*

# Тучи сгущаются

Тучи сгущаются над белорусской экономикой. Россия, как видно, не на шутку обозлилась на известную белорусскую контрабанду нефтепродуктами. Взяла да и прикрыла ее, отказав в поставках исходного сырья.

На экспорте растворителей-разбавителей Беларусь за полгода нагрела руки на 2 миллиарда долларов, которых теперь не будет. В отместку за потери российского бюджета от неполученных пошлин Россия объявила о сокращении на четверть поставок своей нефти в IV квартале текущего года.

Подводит нас и другой сосед — Украина, которая грозится пересмотреть условия на поставляемые белорусские нефтепродукты. Общие потери белорусской экономики до конца года только от этих "подарков" аналитики оценивают от 1 до 2 миллиардов долларов.

В то же время в 2013 году Беларусь должна вернуть кредиторам 3,1 миллиарда долларов. Это против 1,6 миллиарда, которые нам нужно вернуть в этом году. Сами власти признают, что за счет текущего экспорта смогут погасить только половину предстоящих внешних выплат. То есть срочно надо искать деньги. Есть надежда на очередные транши кредита Антикризисного фонда (880 миллионов долларов) и на новые размещения Минфином своих облигаций с прицелом как на европейский, так и на российский и азиатский рынки. Миллиардный кредит российского Сбербанка и Евразийского банка развития "Беларуськалию", который поначалу мы грозились погасить досрочно, теперь отсрочен по договоренности с кредиторами. Власти с нетерпением ждут очередной миссии МВФ, чтобы завязать переговоры по отсрочке платежей Фонду в следующем году.

В августе Беларусь впервые в 2012 году получила отрицательное сальдо внешней торговли товарами: июльские +141,6 миллиона долларов сменились минусом на 363,6 миллиона, что подозрительно совпало с прекращением растворительного гешефта. С началом отопительного сезона становятся реальными перспективы дальнейшего увеличения дефицита торгового баланса.

Следующая угроза белорусской экономике — стремление властей, как и ранее, во что бы то ни стало выполнять директивные показатели. За январь—август ВВП вырос только на 2,5% при директиве 5,5%. Самый простой и испытанный способ ускорить рост ВВП страны — накачивать экономику эмиссионными кредитами, что уже и делается. С начала года по состоянию на 1 сентября рублевая денежная масса увеличилась на 50,4% (по годовому прогнозу — 25—28%), требования банков к экономике (выданные кредиты) выросли на 21,9% (по прогнозу — 17—23%). На этом фоне пересмотр Нацбанком прогноза по снижению ставки рефинансирования к концу года до 25—26% вместо запланированных 20—23% выглядит вполне понятным и разумным. Все более очевидно, что не будет выполнен и директивный показатель по снижению инфляции. Сверхплановое увеличение рублевой массы не в последнюю очередь провоцирует директива вновь выгнать среднемесячную зарплату на 500-долларовый рубеж, на которую, кстати, можно будет купить столько товаров, сколько на 425 долларов год назад. В результате разрыв между ростом зарплаты и производительностью труда продолжает увеличиваться. Темп роста зарплаты уже более чем вдвое превысил аналогичный показатель по производительности труда. Реальная зарплата в Беларуси в январе—августе выросла по сравнению с таким же периодом прошлого года на 13,3%, а рост производительности труда держался на уровне 5—6%.

Ускоренные темпы роста рублевой массы и замедление экспорта меняют соотношение между рублевой и валютной составляющими денежной массы. Девальвация белорусского рубля усиливается. Евро взял символический рубеж в 11.000 рублей, доллар уверенно двигается к 9000. Такая динамика пугает население и вкладчиков. То тут, то там выстраиваются очереди в пункты обмена валют, которые отдельные банки не успевают подкреплять долларовыми и евробанкнотами. Хотя Нацбанк все чаще уверяет, что валюты населению хватит, наученных горьким опытом прошлого года людей охватывает паника. Пока легкая. К примеру, население Беларуси увеличило чистую покупку (превышение покупки над продажей) наличной валюты с 2,1 миллиона в июле до 37,3 миллиона долларов в августе. То же самое сделали предприятия — резиденты и нерезиденты. Чистый спрос последних составил более 1 миллиарда долларов. И эта тенденция продолжается.

В белорусской экономике не происходит ничего существенного, что изменило бы ее авторитарную природу. Более того, экономические проблемы-ребусы постоянно осаждают правительство. Только финансовая поддержка России удерживает нашу экономику от очередного обвала. И на этот раз ее "успехи" в первой половине года имели временный характер и в решающей мере обусловливались непланируемыми доходами на основе смекалки неких белорусских чиновников, которые сумели обьегорить на экспорте российскую казну. Экономическая ситуация, создавшаяся к началу IV квартала, свидетельствует, что руководство страны не сделало надлежащих выводов из уроков кризиса прошлого года.

Нисколько не смущаясь от этого, белорусские власти вновь подготовили "суровые" директивы на следующий год. Рост ВВП — 8,5% (прогноз на этот год — 5,5%), производительности труда — 9,5%, прямые иностранные инвестиции должны составить 4,5 млрд долларов (выполнено в этом году — 1 млрд долларов), ввод в эксплуатацию жилья — 6,5 млн м2 (выполнено — 2,9 млн м2). Бюджет на 2013 год сверстан с курсом доллара менее 9000 рублей. В общем, цели намечены, задачи поставлены — за работу, товарищи! Тот же стиль агитпропа. Важнейшие экономические решения принимаются не на основании тщательного профессионального анализа, а по заданным без учета реалий ориентирам и красивым, запоминающимся цифрам. Типа: зарплата к 2015 году должна быть 1000 долларов.

Практика недавнего времени показывает, что в нереформированной экономике Беларуси ростовые показатели достигаются в первую очередь за счет эмиссионного, безресурсного кредитования, в том числе того же жилищного строительства. И, как следствие, девальвационно-инфляционный сценарий 2011 года. Не успели окончиться парламентские выборы, а цены уже поперли. На транспорт, на мясо, бензин, другие подакцизные товары. Ожидается директивное подорожание услуг ЖКХ, молочных и мясных продуктов, сахара и т.п.

Экономической поддержки России в 6—7 миллиардов долларов ежегодно Беларуси явно недостаточно. А что, если Россия опять станет задерживать четвертый и пятый транши кредитов Антикризисного фонда? Ведь условия по этим кредитам белорусская сторона открыто не выполняет. А что, если МВФ откажется рефинансировать ранее выданные кредиты, так как это не в его правилах? Тогда навряд ли придется размещать новые евробонды и Минфину. Их никто не купит. Чем долги будем отдавать в следующем году? На этот счет власти как бы не заморачиваются. Бог не выдаст, свинья не съест. А может, наши изобретательные топ-менеджеры снова что-нибудь придумают, чтобы облапошить союзника? Если нет, в крайнем случае тот примет, как не раз бывало, политическое решение, чтобы поддержать белорусский народ.

ЧУЛІ?

# *Нарадзі футбольную каманду — і зарабі на пенсію...*

Жанчынам, якія маюць дзесяць і болей дзяцей, памер пенсіі будзе істотна павышаны.

Пра гэта паведаміла міністр сацыяльнай абароны насельніцтва Мар'яна Шчоткіна.

*"Ужо ўнесены змяненні ў заканадаўства — пенсія за асаблівыя заслугі. Пры гэтым ёсць умова, каб гэта маці мела ордэн Маці ці савецкія ўзнагароды. Пытанне гэта мы вырашылі",* — сказала міністр.

# *Альбо піць, альбо за руль*

У панядзелак Аляксандр Лукашэнка даручыў генеральнаму пракурору Аляксандру Канюку прапрацаваць пытанне аб узмацненні адказнасці за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане.

*"У гэтым плане абмяркоўваюцца розныя меры, у тым ліку — магчымасць канфіскацыі транспартных сродкаў",* — паведаміла прэзідэнцкая прэс-служба.

ВІКТОРЫЯ!

## *Валянціна РЖАНЫХ:* *«Такіх грошай, што я атрымала пасля перамогі Вікі на Алімпіядзе, ніколі ў жыцці не бачыла»*

*У мінулую нядзелю беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка выйграла пяты турнір у сезоне і атрымала яшчэ 848 тысяч долараў прызавых. Пра трыумф спартсменкі, асаблівасці яе гульні і прызавыя распавядае першы трэнер Вікторыі Азаранка Валянціна Рыгораўна РЖАНЫХ.*



— У фінале турніру ў Пекіне Віка ўпэўнена перамагла ў двух сетах расіянку Марыю Шарапаву, але я лічу, што яна ўжо даўно знаходзіцца на піку сваёй формы, — расказвае Валянціна Рыгораўна. — Пакуль усё цудоўна, галоўнае, каб не хварэла. Хоць трэба разумець, што ўвесь час першым таксама не будзеш.

**— Вы добра ведаеце спартсменку. Чым яна адрозніваецца ад іншых тэнісістак? У чым яе моц?**

— Думаю, у хуткасці. Умомант пераключаецца з адной гульнявой сітуацыі на другую. Дакладны ўдар за ўдарам, аўтаматычна, на ўзроўні падсвядомасці... Гэта ўжо высокі прафесіяналізм.

**— Балельшчыкі і нават тэнісісткі нярэдка скардзяцца, што Азаранка вельмі моцна крычыць падчас гульні. Калі вы яе трэніравалі маленькай, было тое ж?**

— Звычайная з'ява, на выдыху гуляе... Але гэта прыйшло да Вікі пазней. Хоць, ведаю, зараз дзяцей таксама вучаць гуляць на выдыху. Чаго ж балельшчыкам скардзіцца? Няхай радуюцца, што ў нас ёсць зорка такога класа. Можа, больш ніколі такой і не будзе.

**— Вікторыі пакуль складана змагацца з Серэнай Уільямс, якая, дарэчы, не выступала на апошнім турніры…**

— Серэна ёсць Серэна. Яна вельмі вопытная спартсменка і заўсёды — фаварыт. Але апошняя сустрэча Азаранкі і Уільямс паказала, што з амерыканкай можна іграць. І выйграваць. За кошт хуткасці ў руху, бо Серэна ў гэтым кампаненце, як мне падаецца, крыху адстае. Ды і матывацыя ў такіх матчах у Азаранка куды большая.

**— Маці спартсменкі распавядала мне, што ў Вікторыі ёсць хлопец — таксама тэнісіст Сяргей Бубка, з якім, магчыма, хутка і пажэняцца. Ці ўплывае сямейнае жыццё на спартыўныя вынікі?**

— Я, дарэчы, сама адзін раз бачыла гэтага Сяргея, але наконт сумяшчэння сямейнага жыцця і спорту... Ведаеце, тут усё вельмі індывідуальна. Але, як мне падаецца, Віка пакуль замуж не збіраецца. Думаю, да 30 гадоў яна павінна гуляць "халясцячкай".

**— Да вас славутая выхаванка заязджае? Не забывае?**

— У нас вельмі добрыя адносіны. І з ёй, і з яе маці... Ведаеце, многія ж спартсмены, калі становяцца сусветна вядомымі, нагул не ўспамінаюць пра тых, хто даваў ім у спорце першыя ўрокі. З кім яны рабілі першыя крокі. Віка не такая, і мне ад гэтага вельмі радасна. Бо ў жыцці галоўнае не толькі нечага дасягнуць у прафесійнай кар'еры, але пры гэтым і Чалавекам застацца. Дарэчы, за тое, што Віка ўдала выступіла на Алімпіядзе ў Лондане, я зараз атрымала проста цудоўную прэмію.

**— Першаму трэнеру таксама нешта даюць?**

— Гэта, наколькі я ведаю, Віка размяркоўвала. Такіх грошай я ніколі ў жыцці не бачыла...

**Алесь СІВЫ.**



ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## *Владимир АЛЕКНО:* «С журналистами не общаюсь. Для белорусов — исключение»

*Уроженец Полоцка Владимир АЛЕКНО на прошедшей Олимпиаде в Лондоне привел сборную России по волейболу к золотым олимпийским медалям. Сегодня он — гость "Народной Воли".*

— Время после Олимпиады прошло, все эмоции уже улеглись, — рассказывает Владимир Романович. — Сейчас снова работа и еще раз работа. Нужно с клубом задачи решать.

**— Сами вы из Полоцка. Как пришли в волейбол?**

— Когда мне было 11 лет, в волейбольную секцию меня привел старший брат Сергей. Первые тренеры и дали, как говорят, путевку в жизнь. Через два года меня забрали в спортивный интернат в Минск, так все дальше и пошло-поехало...

**— А почему в свое время уехали из Минска?**

— Так ведь тогда Советский Союз развалился. Мой менеджер и близкий друг, который сейчас, насколько я знаю, является менеджером вашего олимпийского чемпиона по фристайлу Алексея Гришина, в то время и помог найти новый клуб, новую работу.

**— В Беларуси перспектив не наблюдалось?**

— Развал страны — это было для всех полной неожиданностью. На одном из туров нам пришли и сказали: "Союз приказал долго жить, чемпионата СССР тоже больше нет, делайте что хотите". Беларусь тогда еще не была готова проводить свои первенства, так что пришлось уехать сначала в Болгарию, затем — в Италию, Францию...

**— Сложно было в Европе советскому волейболисту?**

— В европейском волейболе был немного другой стиль игры, работы, отношения к делу. Но если бы у советских игроков был слабый уровень, нас, естественно, никто не приглашал бы.

**— А тяжело было адаптироваться, когда перешли на тренерскую работу?**

— В любом деле начинать непросто. Но для меня основная сложность состояла в том, что назначили главным тренером команды, в которой я только вчера играл. 70 процентов игроков, которых нужно было тренировать, пару дней назад выступали со мной на площадке. Вчера ты с ними шутил, а сегодня должен учить и давать установки. Вот это было на самом деле тяжело. Пришлось с первых дней дать понять, что я — тренер и сейчас будет так, как я скажу. И в отношении дисциплины, и по работе. Могу сказать, что команда восприняла это нормально, больших проблем не было.



**— Сейчас под вашим руководством сборная России на Олимпиаде завоевала золотые медали. Накануне Игр верили, что такое возможно?**

— Если скажу, что верил, то это будет неправдой. Но мечты такие были, и задача ставилась именно с упором на "золото".

**— Где-то прочитал, что после победного финала вы произнесли фразу: "Сбылась мечта идиота..."**

— Дело было несколько иначе. Когда телевизионщики у меня брали интервью, я немного перефразировал фразу Остапа Бендера и сказал в камеру: "Сбылась мечта идиота, меня снимают в кино". Бендер мечтал разбогатеть, я хотел стать олимпийским чемпионом...

**— После возвращения из Лондона в российских СМИ делались скандальные заявления со ссылкой на вас: мол, за победу на Олимпиаде тренеры не получили ничего — ни машины, ни денег, ни медалей…**

— Этот вопрос давайте оставим в стороне, потому что ваши коллеги в России по этому поводу и так уже хорошо перемололи тему.

**— На сайте Федерации волейбола России была информация, что после Олимпиады вы прекратили общение с журналистами. Это так?**

— Чистая правда. Были провокационные вопросы по выплатам и премиальным, мои ответы перекрутили так, что изменился весь смысл... Мне это надоело. И с вами я общаюсь лишь потому, что вы белорусский журналист.

**— А вообще, как оценили в России эту невероятную по драматичности победу сборной?**

— Скажем так: оценили достойно. До сих пор идет резонанс, болельщики радуются, фильм вышел. Я знаю, что наш финальный матч с бразильцами смотрели миллионы людей. Но, понимаете, медали — это все приходящее и уходящее. А мне бы хотелось, чтобы после нашей победы мальчишки и девчонки не только в России, но и в Беларуси пошли заниматься в волейбольные секции. И если хотя бы тысяча человек в Беларуси и столько же в России начнут играть в волейбол, а 50—100 человек мы спасем от наркотиков и алкоголя, то для меня это будет самая дорогая цена олимпийской медали.

**— Наверняка вы слышали, что мужская волейбольная команда Беларуси в этом году впервые в истории вышла в финальную часть чемпионата Европы?**

— Да, и это очень большой успех для сборной в той ситуации, в которой сейчас находится белорусский волейбол. Видно, что потенциал есть. Конечно, чтобы был высокий результат, надо чтобы в Беларуси строилось больше спортивных залов, которых не хватает, чтобы игроки получали достойные зарплаты, детско-спортивные школы работали на уровне. Но, как видим, деньги решают не все. Есть еще и желание игроков, какой-то патриотизм. Это все тоже движет спортом.

**— Владимир Романович, а если вам поступит предложение из Беларуси возглавить нашу сборную, подумаете?**

— Этот вопрос как-то не актуален, потому что сегодня я являюсь главным тренером сборной России. Да и у белорусской команды есть наставник.

**— Как часто бываете на Родине?**

— К сожалению, не так часто, как хотелось бы. Но как минимум раз в год маму навещаю. Хотелось бы чаще, но пока не получается.

**Алесь СИВЫЙ.**

### ИЗ ДОСЬЕ

*Владимир АЛЕКНО. Родился 4 декабря 1966 года в Полоцке.*

*Выступал на позиции центрального блокирующего в минском СКА (1984, 1988—1991), ЦСКА (1984—1987), в болгарском "Левски" (1991), итальянских "Асти" (1992—1993) и "Сполето" (1993—1994), французских "Канне" (1994—1996) и "Туре" (1996—1999).*

*В составе ЦСКА дважды становился чемпионом СССР (1985/86, 1986/87), выигрывал Кубок СССР (1985) и Кубок европейских чемпионов (1985/86). Чемпион Болгарии (1990/91), чемпион и обладатель Кубка Франции (1994/95).*

*В 1999 году Владимир Алекно стал играющим тренером французского "Тура", сменив на посту наставника команды болгарина Христо Илиева. В сезоне-1999/2000 "Тур" занял четвертое место в национальном чемпионате и дошел до финала Кубка Франции. Завершив игровую карьеру и сосредоточившись на тренерской, Алекно за короткий срок превратил невзрачную некогда команду в одну из лучших в стране, а в 2004-м привел "Тур" к первой в истории клуба победе в национальной лиге.*

*В том же году, по окончании контракта с французским клубом, Алекно принял предложение поработать в российской Суперлиге. Начал в "Луче", через год возглавил московское "Динамо".*

*Сейчас — главный тренер казанского "Зенита" и национальной сборной России. В 2011 году под его руководством национальная команда впервые в российской истории выиграла сразу два турнира под эгидой FIVB — Мировую лигу и Кубок мира, завоевав вместе с последней победой право участвовать на Олимпийских играх в Лондоне. 12 августа 2012 года в финале летних Олимпийских игр в Лондоне в матче со сборной Бразилии после счета 0:2 Алекно произвел неординарные перестановки, которые изменили ход игры и привели сборную России к победе в невероятно драматичном поединке. Российские волейболисты завоевали золотые олимпийские медали впервые после победы советской команды на Играх 1980 года.*

МАЗАІКА

### *БАТЭ набраў ход*

Больш як тры месяцы не ведае паражэнняў футбольны клуб БАТЭ. Бяспройгрышная серыя барысаўчан дасягнула 18 матчаў.

У мінулыя выхадныя ў чарговым туры нацыянальнага першынства БАТЭ выйграў у Бабруйску ў "Белшыны" — 1:0. Астатнія вынікі: "Гомель" — "Славія" (Мазыр) — 4:1, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) — "Мінск" — 1:0, "Дынама" (Мінск) — "Нафтан" — 1:1, "Нёман" (Гродна) — "Брэст" — 3:0.

Становішча каманд: БАТЭ — 55 ачкоў (24 гульні), "Шахцёр" — 48 (24), "Гомель" — 43 (23), "Дынама" — 43 (25), "Мінск" — 34 (24), "Нёман" — 29 (24), "Тарпеда-БелАЗ" — 24 (25), "Славія" — 22 (23), "Брэст" — 22 (24), "Белшына" — 21 (23), "Нафтан" — 20 (24).

Наступны тур пройдзе 20 і 23 кастрычніка: "Шахцёр"—"Гомель", "Мінск"—"Дынама", "Нафтан"—"Нёман", "Брэст"—"Белшына". БАТЭ свабодны ад гульні.

### *На дне*

Спартыўны дырэктар хакейнага клуба "Дынама" (Мінск) Ігар Матушкін папрасіў прабачэння ў балельшчыкаў за няўдалае выступленне каманды. Сустрэча з фанатамі адбылася 7 кастрычніка ў Маскве пасля завяршэння матча супраць "Спартака" з лікам 4:1 на карысць гаспадароў. Серыя паражэнняў "Дынама" дасягнула трох сустрэч. У Заходняй канферэнцыі каманда займае 13-е месца сярод 14 каманд, а па страчаных ачках замыкае табліцу, піша БелаПАН.

ШАШКІ

### Спаборніцтвы пінчукоў

Яны праходзяць па шашачнай кампазіцыі і маюць рэспубліканскае значэнне, бо мясцовы камітэт спорту праводзіць іх сумесна з Беларускай федэрацыяй шашак. А паколькі з'яўляюцца адкрытымі, сярод удзельнікаў мы бачым і праблемістаў з іншых краін. Нядаўна падведзены вынікі конкурсу "Жамчужына Палесся-2012" па стварэнні сярэдніх праблем-64 і 5-га чэмпіянату Пінска па складанні эцюдаў і камбінацыйных мініяцюр-64. Перамог у іх міжнародны майстар з Наваполацка Пётр Шклудаў. Так аднадушна вырашылі суддзі Рустам Шаяхметаў (Расія) і Віктар Шульга (Беларусь). За ім фінішавалі: у конкурсе — украінскія майстры кампазіцыі Анатоль Саўчанка і Аляксандр Сасуноў, у чэмпіянаце горада — нацыянальны майстар РБ Дзмітрый Камчыцкі (Магілёў) і міжнародны майстар Аляксандр Кагоцька (Пінск).

Пазнаёмцеся з творамі беларускіх прызёраў:



1—2 (Пётр Шклудаў). **Белыя**: b2, c1, c7, e1, e7, f6, g5, g7, h6 (9). **Чорныя**: a3, c3, c5, d4, e3, e5, f2, g3, h2, h4 (10). Выйгрыш (8,125 ачка па змесце).

**Белыя**: b4, b6, c1, c5, c7, d6, e7, f6, h2, h4 (10). **Чорныя**: a5, b8, c3, d2, d4, e3, f2, f4, g3, g5 (10). Таксама 8,125 ачка: f8, d8, d6 (a5) cb6 (ac7) e1, cd2, g5, f4, e3 (c7), f4 (b6), e3 (a5), d2+.

3—4 (Д.Камчыцкі). **Белыя**: c7, d2, d6, e7, f4, g1 (6). **Чорныя**: b4, b8, c5, e3, f2, h4, h6 (7). 7,375 ачка: h2 (c1A) f8 (g5B) g3, g1 (d6C) c5, a5+. C(f2) a3, h4+. A (g5) f8, g1, g3, h4+. B(e7) g1 (d6B1) g3 (f2) a3, h4+. B1(g5) g3 (d6) c5, a5+.

**Белыя**: b6, c5, c7, d6, f6, g5 (6). **Чорныя**: a5, c3, d8, e3, g3, h6 (6). 6,375 ачка: fe7 (f4**A**) b8 (e5) a7, d6, d2 (g3) e3, g1+. **A**(h4) d8, d6, h2+.

5—6 (А.Кагоцька). **Белыя**: b6, c7, d6, g7 (4). **Чорныя**: a5, b2, b4, b8, e3, h8 (6). 6,5 ачка: d8 (f6**A**) c5, e3 (c7**B**) a7 (d6**C**) e3+. **C**(f4) b8 (g3) h2+. **B**(a7) c5/g1 (f4) f2+. **A**(e5) h4, d6 (c7), b8+. L — g7 (g5) f4 (e3). Сааўтар А.Саўчанка.

**Белыя**: b4, d6, e7, f6, g7 (5). **Чорныя**: a3, b2, c5, d2, d4, h8 (6). 5,625 ачка: ef8, fc5 (b6) f8, h6 (c5) e3+.

### Чэмпіён Еўропы

У г.Трускавец (Украіна) адбылося 2-е першынство Еўропы сярод інвалідаў па зроку. У ім беларускі майстар Дзмітрый Фадзееў набраў 16 ачкоў з 18 магчымых і заваяваў залаты медаль. У дзясятку мацнейшых трапіў яшчэ адзін прадстаўнік Беларусі — Аляксандр Кур'ян.

### Рашаем разам

**"Памяці маэстра" (**А.Палявы, М.Грушэўскі): №1 — 1. ab8 2. b:e1! a5:c3 3. e:c1#.

**"Першы чэмпіянат свету"** (Анатоль і Аляксандр Шабаліны): 1. c5-d6 2. c1-d2 3. e1-d2 4. g1-f2 5. b2-c3 і г.д.

КРЫЖАВАНКА

## «Граў на скрыпачцы камар...»

### *Беларускія паэты-класікі — дзецям*

*(Да 130-годдзя з дня нараджэння Я.Купалы, Я.Коласа і да 100-годдзя з дня нараджэння М.Танка)*



**Па гарызанталі:** 1."Весела квеціцца ў небе ..." — з верша Я.Купалы "Наша моладзь". 4."А будзе йсці навука туга,\\Падгоніць бацькава ..." — з паэмы Я.Коласа "Новая зямля" ("Дарэктар"). 10."Адна кветка — для пчолкі,\\Другая — для матылька,\\Трэцяя — на ..." — з верша М.Танка "Як збіраць кветкі". 11."І сам ...-паляўнічы\\Вас у госці тут закліча,\\Жабу ў дзюбе несучы" — з вершаванай казкі Я.Коласа "Рак-вусач". 12."...-галубка! —\\Просіць ён так міла, —\\Можа б ты на рэчку\\Пагуляць пусціла?" — з верша Я.Коласа "На рэчцы зімой". 15."На нівах красуе\\Ядранае ..." — з верша Я.Купалы "Якубу Коласу". 16.У казахаў і кіргізаў — народны паэт, пясняр. 17.Не раскусіўшы ..., зерне не з'ясі (прык.). 18."Дзеда ўсюды носяць ...,\\І к нам прыйдзе на хвілінку\\Адпачыць крыху з дарогі" — з верша Я.Коласа "Дзед-госць". 21.Прэса. 22.Дзе ..., там і вярба (прык.). 27."Грышка, ... невялічкі,\\Выйшаў у поле з дому" — з верша Я.Коласа "Спатканне і знаёмства". 29."Хрушч у літаўры шарахнуў мядзяныя,\\... загудзеў, чмелянят аклікаючы" — з верша М.Танка "Канцэрт у сене". 30."Хадзіў ... пад масток,\\Лавіў рыбку за хвасток" — з паэмы Я.Коласа "Савосьраспуснік". 31."...-вярбінка, —\\Прасіў верабей,\\Мо пакалыхала б\\Маіх ты дзяцей?" — з верша М.Танка "Галінка і верабей". 32."Добра гэта ... грала,\\І звінела, і гула" — з паэмы Я.Коласа "Сымон-музыка".

**Па вертыкалі:** 2. "Мой мілы ..., мой Купала!\\У агульны вір нас доля ўгнала" — з паэмы Я.Коласа "Новая зямля" ("Падгляд пчол"). 3."Граў на скрыпачцы ...,\\На дудачцы — чмель-дудар" — з вершаванай казкі Я.Коласа "Рак-вусач". 5."Хіліцца, рагоча ... зялёная,\\Што яго, старога, ашукаў шчупак" — з верша М.Танка "Дзед і шчупак". 6."Ажно з гоняў Беларусі\\Ў вырай вылецелі ..." — з верша Я.Купалы "У вырай". 7.Надзейся, нябожа, а сам сей ... (прык.). 8."На змярканні — шум, гам, звон.\\Гэта звоняць дуб, ..., клён" — з верша М.Танка "На камарыным вяселлі". 9.Прылада для лоўлі рыбы ў выглядзе бліскучай металічнай бляшкі. 13."Над калыскаю ліповай\\Пела ..." — з верша Я.Купалы "Алеся". 14."Гэй, ..., жыва, смела\\Выйдзем вясну прывітаць!" — з верша Я.Коласа "Песня аб вясне". 19.Карысны вынік работы (перан.). 20."... — слаўная рачушка,\\Грунт яе пясчаны" — з паэмы Я.Коласа "Міхасёвы прыгоды". 23.Гук, які атрымліваецца пры ўдары па вадзе. 24.Птушка, якая ў чэрвені штодня робіць да 200 вылетаў з гнязда. 25."І дзядзька быў ... выдатны" — з паэмы Я.Коласа "Новая зямля" ("Дзедаў човен"). 26.Мужыку ... , што святому рай (прык.). 28. Месца, па якім сцякае вада.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

**Адказы на крыжаванку:**

**Па гарызанталі:** 1.Вясёлка. 4.Папруга. 10.Букет. 11.Бусел. 12.Мамачка. 15.Жыта. 16.Акын. 17.Арэх. 18.Ногі. 21.Друк. 22.Вада. 27.Хлопчык. 29.Чмель. 30.Коцік. 31.Галінка. 32.Скрыпка.

**Па вертыкалі:** 2.Янка. 3.Камар. 5.Асака. 6.Гусі. 7.Збожжа. 8.Граб. 9.Бляснa. 13.Калыханкі. 14.Маленства. 19.Аддача. 20.Талька. 23.Пляск. 24.Шпак. 25.Рыбак. 26.Лета. 28.Сцёк.

«Народная Воля»
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 8.10.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 42100 экз. Заказ №4469.